**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 01 (978) 3 студзеня 2019 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

## Са святам нараджэння Хрыстова!





ISSN 2077-8023



## Мёрскі раён

# Пачаўся мантаж абсталявання

■ Станіслаў Раманчук

**Для жыхароў правінцыі прыход сур'ёзнага інвестара азначае выдатныя перспектывы для развіцця эканомікі, павышэння ўзроўню жыцця людзей.**

Для Міёрскага раёна падзеяй стагоддзя стала пабудова сучаснага металапракатнага завода па выпуску белай бляхі таўшчынёй ад 0,1 мм. Работы на гэтай гіганцкай будоўлі выйшлі на фінішную прамую, на іх заняты штодзённа цяпер больш паўтысячы работнікаў з 10 субпадрадных арганізацый з Беларусі і Расіі. Першая група інжынернага персаналу ў лістападзе прайшла патрэбную стажыроўку ў Германіі, на чарзе паездкі туды для вучобы іншых спецыялістаў, ад аператараў станкоў да металургаў-пракатчыкаў. Летась да пачатку зімы справіліся з асноўнай задачай, узвялі гіганцкі лістапракатны цэх вышынёй з 4-павярховы дом. Туды ўжо падалі цяпло, змантавалі вароты і дзверы, уцяплілі дах. На працягу паўгода ў ім будзе праходзіць мантаж асноўнага абсталявання, агульная вага якога дасягае 4600 тон. На гэту грандыёзную для раёна будоўлю пойдзе каля 50 тысяч кубаметраў бетону, з якіх 46 ужо заліта. Сучасны завод стаў выглядаць вельмі прыгожа, бо сцены пафарбаваны ў светла-сінія і белыя колеры. Акрамя асноўнай вытворчай лініі, якую поўнасцю ўжо паставілі заводу, вялікі аб'ём работ належыць выканаць мантажнікам па падключэнні ўсіх інжынерных сетак, сістэм ахаладжання, асвятлення, газазабеспячэння, змазкі і іншых. Самыя патрэбныя высокатэхналагічнаму прадпрыемству сеткі камунікацый ужо пабудаваны, а вось вытворчасць тут праз год стане кругласутачнай. Прымаюць аб'екты і асноўныя сістэмы нямецкія інжынеры, таму якасць прадукцыі завода будзе адпавядаць самым сучасным патрабаванням.

## Сененскі раён

# На абарону сваёй бальніцы

■ Чэслаў Якубовіч

**У адрозненне ад іншых краін, у Беларусі сістэма мясцовага самакіравання яшчэ не адладжаная.**

Многія важныя для насельніцтва пытанні, як за савецкім часам, вырашаюцца ў кабінетах вышэйстаячых чыноўнікаў, як гэта адбылося ў Сененскім раёне. Там памянялі статус раённай бальніцы ў гарпасёлку Багушэўск, дзе пражывае каля 2,5 тысяч чалавек. Фактычна яна стала бальніцай сястрынскага догляду, а мясцовая паліклініка – амбулаторыяй. Мясцовых жыхароў гэта абурыла, а найперш тое, што 8 ложкаў тэрапеўтычнага аддзялення перавялі ў Сенненскую ЦРБ за 36 км адсюль. Як ні пераконвалі людзей, што для іх гэта самая аптымальная рэарганізацыя, але многія з гэтым не пагадзіліся. Была сабрана тысяча подпісаў багушэўцаў супраць такога рашэння і іх калектыўная скарга была накіравана прама ў прэзідэнцкую Адміністрацыю. Са сталіцы прыехаў разбірацца ў праблеме старшыня пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі па рэгіянальнай палітыцы і мясцовым самакіраванні Аляксандр Папкоў. Ён раней быў дэпутатам парламента з гэтай мясцовасці, працаваў намеснікам главы Адміністрацыі і падтрымаў жыхароў гарпасёлка, які да 1962 года быў тут раённым цэнтрам. Мясцовым кіраўнікам было прама сказана на сустрэчы з насельніцтвам, што яны памыліліся. Адначасова было даручана вярнуць назад з райцэнтра стацыянарныя ложкі, а амбулаторыі – статус раней дзеючай паліклінікі. У ёй, дарэчы, раней зрабілі нядрэнны рамонт, аснасцілі сучасным абсталяваннем, а галоўнае, што простых людзей пачулі, што не заўжды бывае. У гарпасёлак таксама падвялі прыродны газ, запрацавала тут і станцыя абезжалезвання вады. Багушэўск уключаны ў абласную праграму добраўпарадкавання невялікіх населеных пунктаў, што дапаможа ў будучым вырашыць і іншыя сацыяльныя праблемы.

## Браслаўскі раён

# Два гады на "Дажынкі"

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам у Прыдзвінні маштабныя работы па падрыхтоўцы абласнога свята-кірмашу працаўнікоў вёсцы пачынаюцца загадзя, каб меней было нервовых зрываў і аўралу.**

Яшчэ два гады назад стала вядома, што месцам правядзення "Дажынак-2019" стане Браслаў, а потым перадасць эстафету абласному цэнтру. За такі прамежак часу было вырашана, што павінны змяніцца кардынальна ў лепшы бок найперш вуліцы ў азёрным цэнтры і інжынерныя сеткі. Яшчэ летась быў распрацаваны праект добраўпарадкавання прыбярэжнай зоны адпачынку возера Дрывяты, візітовай карткі горада. Пачалася рэканструкцыя вуліцы Гагарына з абсталяваннем на ёй пешаходных дарожак, а таксама мясцовага вялікага і прыгожага пляжа. У райцэнтры з'явіцца абноўлены парк з вадаёмам і летнім амфітэатрам. А найбольш парадавала браслаўчан, што ў іх запрацуе неўзабаве сучасны ФАК з плавальным басейнам, які быў пабудаваны нядаўна ў Верхнядзвінску. Адразу 7 км асноўных дарог пакрыюць новым асфальтам, значныя пераўтварэнні чакаюць і прыватны сектар жыллёвых пабудоў. Пералік важнейшых аб'ектаў мадэрнізацыі ў райцэнтры ўжо сфарміраваны, на іх выдзеляць з розных крыніц фінансавання і з абласнога бюджэту каля 4 млн. рублёў. Ужо вядома, што ў 2021 годзе маштабнае хлебаробскае свята прыме Шуміліна.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 03.01.19 | | | | Пятніца 04.01.19 | | | | Субота 05.01.19 | | | | Нядзеля 06.01.19 | | | | Пн.07 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -3 | -5 | -4 | -4 | -6 | -10 | -7 | -5 | 0 | -1 | -3 | -9 | -10 | -10 | -11 | -17 | -21 |
| Ціск | 737 | 740 | 743 | 746 | 749 | 749 | 747 | 742 | 738 | 736 | 738 | 740 | 743 | 746 | 750 | 753 | 755 |
| Вецер м/сек | 6 Пн-З | 6 Пн-З | 6 Пн-З | 6 Пн | 5 Пн | 3 Пн-З | 3 Пд-З | 6 Пд-З | 4 Пд-З | 3 Пн-З | 5 Пн | 6 Пн | 5 Пн-У | 6 Пн-У | 6 Пн-У | 4 Пн-У | 3 Пн-У |
| Вільготнасць | 94 | 96 | 95 | 96 | 96 | 99 | 94 | 98 | 96 | 97 | 95 | 95 | 95 | 96 | 94 | 96 | 98 |

# БОЛЬШАСЦЬ БЕЛАРУСАЎ НЕ ПАВІННЫ СТАЦЬ ПЕШКАМІ Ў ЧУЖОЙ ГУЛЬНІ, КАБ ЧАТЫРОХРАЗОВЫ РАСІЙСКІ ПРЭЗІДЭНТ МОГ ПРАВІЦЬ ВЕЧНА



■ Аляксандр Цішкевіч.

**А самае галоўнае, што былому палкоўніку КДБ патрэбен пяты тэрмін знаходжання на чале расійскай дзяржавы. Летась яго выбралі ў чацвёрты і апошні раз прэзідэнтам РФ. А вось калі ён стане прэзідэнтам ужо Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі, то зможа і пасля 2024 года прадоўжыць сваю палітычную кар'еру, руліць ужо новай краінай.**

Ужо відавочна, што асабліва летась расійска-беларускія адносіны істотна пагоршыліся. Дайшло да таго, што беларускі лідар стаў публічна гаварыць аб намерах Крамля "инкорпорировать Беларусь в состав России". Магчыма, у будучым у падручніках беларускай гісторыі з'явіцца нават аб гэтым тэрмін "ультыматум Мядзведзева", бо менавіта расійскі прэм'ер у Брэсце ў сярэдзіне снежня агучыў прапановы аб пашырэнні інтэграцыі ў рамках Саюзнай дзяржавы. Як было заяўлена гэтым дзеячам, трэба вярнуцца да падпісаных папер напрыканцы 90-х гадоў і стварыць адзіны эмісійны цэнтр валюты, суд і мытню.

На гэта адразу рэзка адрэагаваў А. Лукашэнка і заявіў, што суверэнітэт для Беларусі – гэта святое і ніколі такога не будзе, каб нас падзялілі на вобласці і ўпіхнулі ў Расію. Крыху пазней адказаў расійскім палітыкам і глава беларускага знешнепалітычнага ведамства У. Макей, што аб свабодзе і незалежнасці мы марылі, мы думалі на працягу многіх-многіх стагоддзяў і таму наша краіна проста абавязана заставацца суверэннай. Я таксама перакананы, што большасць нашых суайчыннікаў – разумныя людзі і добра разумеюць, што ўяўляе сабой наш усходні вялікі сусед і чаму толькі менавіта зараз Масква раптам так захацела стварыць наддзяржаўную структуру, пракруціць "прасунуты варыянт інтэграцыі".

Адыёзны палітык расійскай Дзярждумы, пастарэлы У. Жырыноўскі запэўніў, што калі правесці ў нас рэферэндум, то абсалютная большасць беларусаў прагаласуе за вяртанне ў склад Расіі. На самой справе, як паказваюць вынікі дасследванняў, ужо дзве трэці грамадзян Беларусі (76 %) згодныя на тое, каб мы з РФ былі незалежнымі, але сяброўскімі краінамі з адкрытымі граніцамі, без віз і іншых абмежаванняў. Цяперашняе чарговае абвастрэнне ўзаемных адносін – не выпадковае, бо Расія сама апынулася ў няпростым эканамічным становішчы, ужо не можа, як раней, шчодра спансіраваць свайго ці не апошняга саюзніка.

Адначасова крамлёўскія стратэгі вырашылі выкарыстаць нас, як асабліва блізкіх "русскому миру", бо большасць беларусаў гаворыць па-руску, моляцца Богу ў цэрквах Маскоўскага патрыярхата, глядзяць іх ТВ, спяваюць іх песні. Таму пасля паспяховай аперацыі з Крымам грэх не паспрабаваць прапіхнуць яшчэ і варыянт далучэння беларускіх земляў да сваёй федэрацыі. Як-ніяк, 66 % расіян смуткуюць вельмі моцна і цяпер аб распадзе СССР, а рэйтынг іх прэзідэнта У. Пуціна імкліва стаў абвальвацца на фоне непапулярнай пенсійнай рэформы і пагаршэння ўзроўню жыцця з-за заходніх санкцый, якія ўсё ж адчувальна дзейнічаюць.

А самае галоўнае, што былому палкоўніку КДБ патрэбен пяты тэрмін знаходжання на чале расійскай дзяржавы. Летась яго выбралі ў чацвёрты і апошні раз прэзідэнтам РФ. А вось калі ён стане прэзідэнтам ужо Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі, то зможа і пасля 2024 года прадоўжыць сваю палітычную кар'еру, руліць ужо новай краінай. У ёй, калі такое, не дай Бог, адбудзецца, то нам будзе вызначаны лёс расійскай ускраіны, падобнай на Паўночна-заходні край, як звалі Беларусь за царскім часам. У маскоўскіх кабінетах даверу да кіраўніцтва нашай краіны даўно няма, напэўна, яшчэ з часоў кароткай руска-грузінскай вайны 2008 года, калі мы не прызналі незалежнасць захопленых рускімі Абхазіі і Паўднёвай Асеціі.

Вельмі адметна і тое, што расійскі правадыр на сваёй 14-й па ліку снежаньскай прэс-канферэнцыі пра што толькі ні гаварыў, але пра Беларусь не ўзгадаў ніводнага разу. У яго паняццях мы з рускімі – адзін народ, аднак гэта далёка не так. Незалежнасць і самастойнасць у свядомасці беларусаў укараніліся ўжо даволі трывала, прайшло цэлых 27 гадоў пасля Віскулёў. Бяспраўным суб'ектам іх федэрацыі, паслугачом прадажных чыноўнікаў-казнакрадаў і карупцыйнай паліцыі, ахвярай іх шматлікіх бандыцкіх груповак, нарэшце трупам у бясконцых ваенных канфліктах можа захацець аказацца толькі недалёкі розумам наш суайчыннік.

Гэта правільна, што А. Лукашэнка адверг ультыматум Крамля. Яшчэ пазалетась, калі закончылася чарговая "нафтагазавая вайна", многія нават замежныя палітолагі папярэджвалі, што палітычныя адносіны Масквы і Мінска прадоўжаць пагаршацца. За нашу знешнепалітычную лаяльнасць Крэмль ужо не хоча плаціць, размовы аб вечным братэрстве трэба спыняць. Хто, як ні самі рускія працягваюць з намі свае харчовыя войны, каб беларусаў правучыць за "дрэнныя паводзіны". У бліжэйшым будучым, мяркуючы па ўсім, нам трэба рыхтавацца да таго, што паляпшэння адносін з пуцінскай Расіяй не будзе, а Беларусі прыйдзецца болей разлічваць на свае сілы і розум.

Захаваць правячы ў РФ крайне ваяўнічы рэжым і пасля 2024 года за кошт нашай краіны – марная задума і хай крамлёўскія стратэгі пра гэта ведаюць. Вось толькі і беларусам самім трэба думаць аб новых рынках збыту, павышэнні эфектыўнасці сваёй эканомікі, пачынаць наспеўшыя рэформы, якія прапаноўваюць нам не толькі МВФ, але ўжо і эканамісты ЕАЭС. Акрамя ўсяго Беларусь у 2020 годзе разлічвае нарэшце, як заявіў глава ўрада С. Румас, уступіць у Сусветную гандлёвую арганізацыю, куды ўваходзяць нашы асноўныя партнёры на постсавецкай прасторы.

## Дзень за днём

**Страты Беларусі ад падатковага манеўру Расіі сёлета могуць дасягнуць 620 мільёнаў рублёў. Золатавалютныя рэзервы краіны перавысілі 7,4 мільярда долараў. За год беларусы прадалі на 1 мільярд долараў болей, чым купілі. Судан прадаставіў Беларусі другое радовішча для здабычы золата. Па рэлігійнасці насельніцтва Беларусь заняла 13 месца ў Еўропе. Дзяржкантроль выявіў, што ў Мінску пустуе амаль тысяча дзяржаўных кватэр. За два тыдні з Украіны вярнулі ў Беларусь 380 расіян. У Мінск прыляцеў новы "танкалёт" "Белавія". Беларусаў перадпенсійнага ўзросту не будуць лічыць "дармаедамі". ФК БАТЭ прабіўся ў плей-оф Лігі Еўропы.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Для захавання Дагавора аб РСМД, як заявіла намеснік дзяржсакратара ЗША А. Томпсан, Расія павінна пазбавіцца ад сваіх ракет 9М729 альбо мадыфіцыраваць іх.

**Францыя.** Прэзідэнт Э. Макрон звярнуўся да нацыі, паабяцаў павялічыць зарплату, знізіць падаткі, прызнаў, што гнеў і абурэнні пратэстуючых у многім апраўданыя.

**Украіна.** Вярхоўная рада 277 галасамі зацвердзіла закон аб разрыве з 1 красавіка 2019 года Дагавора аб дружбе, супрацоўніцтве і партнёрстве з Расіяй з-за ваеннай агрэсіі РФ.

**Германія.** Глава МЗС ФРГ Х. Мас пацвердзіў, што немцы з Францыяй хочуць выступіць пасрэднікамі ў вырашэнні канфлікту паміж РФ і Украінай аб доступе ў Азоўскае мора.

**Італія.** Падобныя канфлікты, як у Керчанскім праліве, як заявіў на пасяджэнні АБСЕ ў Мілане глава МЗС Беларусі У. Макей, прыводзілі да сусветных войнаў.

**Грузія.** Прэзідэнт С. Зурабішвілі заявіла, што грузінам патрэбна падтрымка Захада, бо агрэсіўная Расія спрабуе сеяць дэзінфармацыю і хаос, акупіравала 1/5 частку краіны.

**Арменія.** На пазачарговых парламенцкіх выбарах упэўнена перамог блок "Мой крок" маладога прэм'ер-міністра М. Пашыняна, былая правячая партыя страціла ўладу.

**Літва.** Прэзідэнт Д. Грыбаўскайтэ ўявала санкцыі супраць рускіх з-за інцыдэнта ў Керчанскім праліве, пацвердзіла павелічэнне ваеннай дапамогі Украіне.

**Расія.** Віцэ-прэм'ер урада РФ Д. Козак адмовіўся абмяркоўваць з делегацыяй з Мінска кампенсацыю Беларусі страт (11 млрд. USD) ад падатковага манеўру ў нафтавай галіне.

**Арменія.** Апеляцыйны суд Арменіі пакінуў у сіле рашэнне суда 1-й інстанцыі аб арышце былога прэзідэнта Р. Качарана, яго абвінавацілі ў звяржэнні канстытуцыйнага ладу.

**Германія**. На з'ездзе ХДС новым старшынёй партыі і пераемніцай А. Меркель выбралі яе даверaную асобу 56-гадовую Анегрэт Крамп-Каррэнбаўэр, ярую праціўніцу Пуціна.

**Філіпіны.** З-за санкцый на ваенны экспарт Расіі, як паведаміў міністр абароны Д. Лрэнзхана, краіна купіць 16 амерыканскіх верталётаў замест расійскіх Мі-171.

**Канада.** Паліцыя затрымала дачку заснавальніка кітайскай кампаніі Huawei Мэн Ваньчжоу з-за парушэння рэжыму санкцый супраць Ірана і праблем кібербяспекі.

**Казахстан.** У грамадзян краіны, якія не прайшлі рэгістрацыю, пачалі адключаць няўлічаныя мабільныя тэлефоны, мадэмы і іншыя электронныя прыборы.

**Расія.** Толькі за запіс у блогу ўлады арыштавалі на 25 сутак вядомага 77-гадовага праваабаронцу Л. Панамарова, хворага на сэрца, скарга на гэта накіравана ў ЕСПЧ.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Астравец.** На сярэдзіну 2019 года запланавалі запуск у эксплуатацыю першага рэактара БелАЭС, неба над станцыяй стаў ахоўваць 1146 гвардзейскі зенітны ракетны полк.

**Мінск.** Не зусім зразумела, як заявіў палітолаг В. Карбалевіч, чаму А. Лукашэнка ў перамовах з РФ напірае на газ, бо цана яе падатковага манеўру з нафтай яшчэ большая.

**Светлагорск.** Канцэрн "Беллесбумпрам" пацвердзіў, што пасля паўторнай экалагічнай экспертызы і асваення новага абсталявання завод белай цэлюлозы адновіць працу.

**Івацэвічы.** Следчы камітэт не стаў абвінавачваць 57-гадовага жыхара вёскі Бабровічы, бо ў момант забойства з ружжа ўчастковага ён быў псіхічна хворы, як пацвердзілі эксперты.

**Магілёў.** Плату за карыстанне інтэрнатамі ў вобласці, незалежна ад іх прыналежнасці, ўлады зменшылі ў 4 разы, зацвердзілі спецыяльны паніжаючы каэфіцыент.

**Барысаў.** Нам наўрад ці ўдасца, як папярэдзіў ваенны эксперт А. Алесін, мадэрнізіраваць у Расіі больш 20 танкаў у год, бо абнаўленне адной машыны каштуе звыш 2 млн. долараў.

**Мінск.** Спецыяльны дарадца вярхоўнага камісара ААН па справах уцекачоў К. Бэтчэлор заклікала ўлады паспрабаваць вырашыць праблему безграмадзянства 6 тысяч чалавек.

**Быхаў.** З прыкметамі гвалтоўнай смерці знайшлі ва ўласным вясковым доме 89-гадовую жанчыну, яе забілі два п'яніцы, забралі ў старой 80 рублёў пенсіі і бутэльку гарэлкі.

**Мінск**. Адзін з кіраўнікоў французскай кампаніі "Леруа Мерлін" Ф. Рожэ пацвердзіў, што да сакавіка 2020 года яна пабудуе за 20мільёнаў еўра гіпермаркет тавараў для дома і будоўлі.

**Івацэвічы.** Вечарам на трасе М1 ля раённага цэнтра 44-гадовая жанчына-кіроўца збіла двух ласёў і была шпіталізавана ў рэанімацыю раённай бальніцы, адзін з іх уляцеў у салон аўто.

**Калодзішчы.** Пасля чарговай спробы абакрасці пенсіянерку затрымалі двух прыезджых злодзеяў з Разанскай вобласці Расіі, якія прыкідваліся работнікамі "Мінгаза".

**Маладзечна.** На творчай сустрэчы з работнікамі мэблевай фабрыкі 78-гадовы кампазітар Эдуард Ханок пацвердзіў, што ён уступіў у члены Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**Гомель.** Па суседстве з дзіцячым гарадком адкрылі ўнікальную галоўную ёлку вобласці вышынёй 32 метры з экранам, на які праецыруюцца прыгожыя каляровыя кампазіцыі.

**Жлобін.** Супраць дзвюх сямейных пар распачалі крымінальную справу за крадзёж, іх мужоў затрымалі вечарам пры спробе вынесці з мясакамбіната 55кілаграмаў мяснoй выразкі.

**Мінск.** Упершыню ў гісторыі выступленняў у КХЛ мінскае "Дынама" прайграла ў шасці дамашніх запар матчах, трыбуны 15-тысячнай "Мінск-арэны" напалову апусцелі.

# Для жыхароў дамоў з электрычным ацяпленнем і падагрэвам вады ўвялі новы тарыф



■ FINANCE.TUT.BY

**У Беларусі ўвялі новы тарыф на электраэнергію для жылых дамоў, дзе для ацяплення і падагрэву вады выкарыстоўваецца электрычнасць. Гэта прадугледжана пастановай Саўміна ад 27 снежня 2018 № 947.**

Новаўвядзенне закране жыхароў толькі тых дамоў, якія не падключаны да цэнтралізаванага газазабеспячэння і цеплазабеспячэння, а для ацяплення і падагрэву вады ў іх выкарыстоўваецца электрычнасць. Пакуль што многія з такіх дамоў не абсталяваны дадатковымі лічыльнікамі, каб падлічваць кВт • г, патрачаныя менавіта для гэтых мэтаў. Гэта значыць, атрымліваецца, што яны вымушаныя плаціць па вельмі высокіх тарыфах. У перыяд мінімальных нагрузак (з 23.00 да 6.00), электрычнасць каштуе 0,1003 рубля за 1 кВт • г, у астатні час - 0,1863.

- З мэтай зніжэння кошту аплаты электрычнай энергіі для дадзенай групы спажыўцоў усталяваны тарыф на электрычную энергію ў памеры 0,0687 рубля за 1 кВт • г, што значна ніжэй тарыфу на электрычную энергію ў жылых дамах, абсталяваных электрычнымі плітамі - 0,1218 рубля за 1 кВт • г, - растлумачылі ў Міністэрстве антыманапольнага рэгулявання і гандлю. - Акрамя таго, пастановай для дадзенай тарыфнай групы спажыўцоў адменена дыферэнцыяваная плата за электрычную энергію ў залежнасці ад аб'ёмаў яе спажывання.

Гэта пастанова дзейнічае з 1 снежня гэтага года. Значыць, у студзені спажыўцы атрымаюць меншыя рахункі за электраэнергію.

## Базавая велічыня вырасце з 1 студзеня на адзін рубель

■ nn.by

**Базавая велічыня з 1 студзеня вырасце да 25 рублёў 50 капеек. Гэта прадугледжана пастановай Саўміна, піша БелТА.**

Цяпер базавая велічыня складае 24,5 рубля, такім чынам яна вырасце на адзін рубель.

Ад базавай велічыні залежаць памеры некаторых дапамог, стыпендый, падаткаў і збораў, штрафаў, іншых выплат

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** За год у вобласці падвоілася колькасць самазанятых у эканоміцы грамадзян па заяўным прынцыпе і дасягнула амаль 4100 чалавек, рэпетытарамі сталі 550 педагогаў.

**Наваполацк.** З наведвання абласнога цэнтра, а потым ААТ "Нафтан" і іншых мясцін рэгіёна пачаўся чарговы прэстур для каля ста расійскіх журналістаў.

**Глыбокае.** Пасля кансультацый Рассельгаснагляд зняў абмежаванні на пастаўкі ў РФ прадукцыі Браслаўскага філіяла МКК і сыроў Маладзечанскага малочнага камбіната.

**Віцебск.** За год будаўнікі мясцовага ДБК узвялі ўнікальны для краіны Цэнтр па скачках на батуце, сетка піццэрый "Тата Джонс" адкрыла першы ў рэгіёне свой рэстаран.

**Лепель.** Праверка спецыялістаў РЦГіЭ рознічнай гандлёвай сеткі выявіла ў 22 магазінах парушэнні санітарных норм і правілаў, у 13 крамах – пратэрмінаваныя прадукты.

**Верхнядзвінск**. На пункце пропуску "Грыгароўшчына" супрацоўнікі Віцебскай мытні затрымалі ў грамадзяніна Эстоніі старажытных марак і канвертаў на 12 тысяч долараў.

**Браслаў.** На сустрэчы з калектывам раённай бальніцы намеснік главы вобласці У. Пенін расказаў аб пераўтварэннях у горадзе падчас падрыхтоўкі да абласных "Дажынак-2019".

**Докшыцы.** У кіна–канцэртнай зале "Іскра" ўрачыста адзначылі 50-годдзе дзейнасці ў раёне сістэмы газіфікацыі, на яе балансе 274 км газаправодаў, 12 тысяч газіфікаваных кватэр.

**Полацк.** Падчас рамонту аднаго з карпусоў мясцовага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Наваполацку трагічна загінуў 54-гадовы рабочы, калі калегі выкідвалі будаўнічыя адходы з акна 4-га паверха.

**Мёры.** Жыхароў аграгарадка Пад'ельцы засмуціла, што ў іх населены пункт перастаў заязджаць грамадскі транспарт па маршруце руху новага гарадскога аўтобуса.

**Паставы.** Летась у раёне ад атручэння алкаголем памерлі 3 чалавекі, а 12 – патрапілі ў рэанімацыю, пралячылі ў наркалагічным аддзяленні 307 пацыентаў і 45 – у псіхіятрычнай бальніцы.

**Дуброўна.** Пасля пошукаў міліцыя затрымала ў лесе двух грамадзян Казахстана ва ўзросце 33 і 40 гадоў, якія ў казіно паспрабавалі абмяняць 5 тысяч падробных еўра.

**Наваполацк.** Каля 7 гадзін раніцы 72-гадовы вадзіцель на Фордзе на пераходзе збіў 49-гадовую жанчыну, у Віцебску вечарам 14-гадовы юнак патрапіў пад калёсы таксі.

**Орша.** Позна вечарам загарэлася бытавое памяшканне на тэрыторыі могілак, у выніку пажару былі пашкоджаны сцены, дах і маёмасць, праз гадзіну загарэўся дом ля чыгункі.

**Ушачы.** На глыбіні 8 метраў на дне возера Рукшанскае вадалазы дасталі цела 49-гадовага рыбака з аграгарадка Глыбочка, які праваліўся пад лёд разам з матацыклам і загінуў.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Мытнікі з 1 студзеня ў некаторых пунктах пропуску Беларусі будуць ажыццяўляць пагранічны кантроль

**З 1 студзеня 2019 года мытныя органы ў пунктах пропуску, што вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, будуць ажыццяўляць асобныя функцыі пагранічнікаў, у тым ліку пагранічны кантроль. Гэта прадугледжана ўказам нумар 495 "Аб аптымізацыі дзейнасці", які падпісаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе беларускага лідара.**

Пакуль гэта будзе датычыцца трох пунктаў пропуску - аўтадарожнага "Казловічы" на граніцы з Польшчай, дзе перамяшчаецца толькі грузавы аўтатранспарт, а таксама двух чыгуначных - "Гудагай" на станцыі Маладзечна, на граніцы з Літвой, і "Бігосава" на станцыі Полацк, на граніцы з Латвіяй.

Гэтыя меры накіраваны на аптымізацыю дзейнасці мытных органаў і органаў пагранічнай службы ў пунктах пропуску праз Дзяржаўную граніцу Рэспублікі Беларусь, укараненне прынцыпу аднаго акна, а таксама скарачэнне часу кантрольных працэдур.

Вызваленыя супрацоўнікі органаў пагранічнай службы будуць накіраваны для ўзмацнення аховы іншых участкаў граніцы.

*БелТА*



**На Каляды адбылася сустрэча людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Сустрэчу арганізавала Глыбоцкае аддзяленне добраахвотнага каталіцкага таварыства "Карытас". На здымку Леаніда Янаўна Зяваліч (у цэнтры на дальнім плане), кіраўнік групы Бэталь-Карытас са сваімі падапечнымі.** *Фота Зміцера Лупача.*

# У Валодзькаве ізноў "ажанілі" Цярэшку



**Забава «Вішанька». «Нявеста» стаіць на зэдліку, а «жаніху» трэба з разбегу апёрціся на рукі, якія ляжаць на плячах двух іншых «жаніхоў», падскокнуць і даць буську ў вусны «нявесты». Некаторыя змаглі толькі з трэцяй спробы.***Фота Уладзіміра Скрабатуна.*

**Каталіцызм на Беларусь прыйшоў з Захаду, праваслаўе – з Усходу. А вось "Цярэшка" (Жаніцьба Цярэшкі) – гэта нашае, тое, што ўзнікла ў нас і захоўвалася стагоддзямі.**

Этнографы сцвярджаюць, што "Цярэшка" мае вытокі, наогул, з часоў паганства. Слова "Цярэшка" пранікла ва ўсе сферы беларускага жыцця. Ёсць вёскі з назваю Цярэшкі, прозвішчы Цярэшка. Першая жанчына-касманаўт Валянціна Церашкова неяк прызналася, што яе дзявочае прозвішча, насамрэч, Цярэшка. Яна мае беларускія карані. Хоць сама яна нарадзілася ў Расіі, але ў іх доме бабуля заўсёды размаўляла па-беларуску.

У Глыбокім Народны тэатр фальклору носіць назоў "Цярэшка".

У свой час аўтар задаваў старажылам пытанне накшталт: "Як жылі за "польскім часам"? Як адпачывалі, калі былі маладымі?"

– У Прыперна ладзілі "Цярэшку" – казаў Пётр Альбінавіч Вярцінскі. А Даніэль Ермаковіч сцвярджае, што "жанілі Цярэшку" і ў 1960-я гг на Глыбоччыне, напрыклад, у ваколіцах Дзеркаўшчыны. Сам ён прысутнічаў.

Адраджаць "Цярэшку" на Глыбоччыне ўзялася Тацццяна Смоткіна, старшыня Глыбоцкай філіі Беларускай Асацыяцыі Журналістаў. Сёлета ўжо будзе чацвёрты год запар. Першы раз "жанілі Цярэшку" у Гарадскім цэнтры культуры, а ўжо тры гады запар у Валодзькаве на аграсядзібе Юліі Бука "Родны кут".

На нашую "Цярэшку" заўсёды прыязджаюць госці з Полацка, Браслава і Шаркоўшчыны, а таксама Лепеля. На Лепельшчыне гэтая традыцыя яшчэ не знікла, "жэняць" там "Цярэшку" натуральна, а ў нас гэта – пастаноўка.



**Не абыходзіцца "жаніцьба Цярэшкі" без вясёлых танцаў.** *Фота Уладзіміра Скрабатуна.*

У Лепелі ёсць сапраўдны гурт, які гэтым стала займаецца, і гэта не работнікі культуры, а энтузіясты (настаўнікі, журналісты, самадзейныя музыкі), якія запісалі сцэнар на жывым прыкладзе, ладзячы экспедыцыі па Ушаччыне і Лепельшчыне. Аднак лепельскія ўлады, тым не менш запрашаюць гэты гурт на масавыя мерапрыемствы, сярод якіх, напрыклад, калядаванне. Таму глыбоцкая "Цярэшка" ладзіцца па лепельскім сцэнары, хаця і ў нас "Цярэшка" даўней праводзілася досыць падобна.

Жаніцьба Цярэшкі («Цярэшка») — беларуская народная гульня для нежанатай моладзі. У даўніну мела сакральнае значэнне. З'яўлялася рэпетыцыяй вясельных абрадаў (маладыя людзі выбіралі сабе пару, жартоўна «жаніліся»). Нярэдка пары, якія складаліся ў час гульні, потым сапраўды браліся шлюбам. Старэйшыя сяляне з большасці ставіліся да гульні грэбліва з-за яе нясціпласці. На Поўначы Беларусі і сёння ў вёсках жывуць людзі, якія гулялі ў «Цярэшку» у маладыя гады.

«Цярэшку» ладзілі пераважна ў зімовы час, у дні гадавых свят (Каляды, Новы Год, дні перад Вялікім постам). З-за нясціпласці гульні ніводны паважаны сямейны дом не дазволіў бы спраўляць яе пад сваім дахам, таму «Цярэшка» найчасцей спраўляўся ў карчме, абавязкова ў канцы гулянкі, пасля доўгіх танцаў. Карчмар мог усклікнуць: «Ну што ўсё скокі ды скокі! Валей бы Цярэшку жанілі!». У карчме адразу ж пачынаўся гоман: «Будуць Цярэшку жаніць!». Пажылыя людзі сыходзілі ў іншыя памяшканні карчмы, а моладзь распачынала гульню.

# Бясплатны Wi-Fi з'явіўся ў міжгародніх і прыгарадных аўтобусах Віцебскай вобласці

**У 32-х аўтобусах, якія адпраўляюцца з аўтавакзала ў Віцебску, з'явіўся бясплатны Wi-Fi-доступ да інтэрнэту ад МТС.**

Бясплатны інтэрнэт даступны на маршрутах паміж Віцебскам і Мінскам, а таксама ім можна карыстацца падчас паездак з абласнога цэнтра ў Лепель, **Глыбокае,** Расоны, Ушачы, Пастаны, Браслаў, Чашнікі, Наваполацк і Новалукомль.

Таксама Wi-Fi з'явіўся ў аўтобусах, якія выязджаюць з аўтавакзалаў Наваполацка, Оршы, **Глыбокага** і Браслава. У прыватнасці, карыстацца інтэрнэтам у аўтобусах з Оршы ў Віцебск, Наваполацк, Лепель, Горкі, Арэхаўск і Шыбекі.

Каб карыстацца бясплатным інтэрнэтам праз Wi-Fi ў аўтобусе неабходна прайсці ідэнтыфікацыю на партале аўтарызацыі, у адказ прыйдзе SMS з кодам, які трэба пазначыць пры падключэнні. Заказчыкам арганізацыі Wi-Fi ў аўтобусах выступіў «Віцебскаблаўтатранс».

*— Бясплатны інтэрнэт у грамадскім транспарце паступова становіцца стандартам якасці абслугоўвання. І попыт на яго расце: усё больш пасажыраў цікавяцца, ці ёсць Wi-Fi ў салоне і як падключыцца. Як правіла, для доступу выкарыстоўваецца маршрутызатар, які выкарыстоўвае 3G-сетку ад МТС. Усё больш перавозчыкаў, якія звяртаюцца да нас за ўкараненнем гатовых рашэнняў «пад ключ» з тым, каб забяспечыць карыстальнікаў якасным інтэрнэтам уздоўж усяго маршруту,* — адзначыла начальнік упраўлення па працы з ключавымі кліентамі Людміла Саўчук.

Сотавы аператар абяцае, што сетка настроена такім чынам, каб інтэрнэтам маглі камфортна карыстацца ўсе пасажыры ў аўтобусе.

*ННВ*




# Абноўлены пералік проціпаказанняў да кіравання аўто: цяжарныя могуць садзіцца за руль і пасля 30-га тыдня

**Міністэрства аховы здароўя Беларусі абнавіла пералік захворванняў і проціпаказанняў, якія перашкаджаюць кіраванню механічнымі транспартнымі сродкамі, самаходнымі машынамі, а таксама ўмоў, пры выкананні якіх асобы допускаюцца па медыцынскіх паказаннях да кіравання. Такая інфармацыя размешчана на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, паведамляе БелТА.**

Згодна з пастановай Міністэрства аховы здароўя ад 6 снежня 2018 года нумар 88 пры цяжарнасці (12 тыдняў і больш) забаронена кіраваць МТС і саставамі транспартных сродкаў катэгорый "C", "D", "CE", "DE", "F", "I", а таксама трактарамі катэгорый "A", "B", "C", "D", "E", "F". Як растлумачылі ў прэс-службе Міністэрства аховы здароўя, у адносінах да цяжарных жанчын, якія маюць вадзіцельскае пасведчанне катэгорыі "B", зняты абмежаванні на ваджэнне легкавога аўтамабіля.

Раней за руль нельга было садзіцца жанчынам з тэрмінам цяжарнасці 30 тыдняў і больш. Забаронена кіраваць механічнымі транспартнымі сродкамі (МТС), самаходнымі машынамі пры стойкай дыплапіі любой этыялогіі; дэфектах касцей чэрапа (12 кв.см і больш) без аперацыйнай пластыкі дэфекту; хранічнай сардэчнай недастатковасці Н IIБ і Н III па класіфікацыі Стражэска-Васіленка; сіндроме слабасці сінусовага вузла, сіндроме брадзітахікардыі; хваробах органаў дыхання з дыхальнай недастатковасцю III ступені; злаякасных новаўтварэннях 4-й клінічнай групы і інш. Дакумент уступае ў сілу праз 15 дзён пасля яго афіцыйнага апублікавання.

Пастанова Міністэрства аховы здароўя ад 16 лютага 2016 года нумар 30 будзе прызнана страціўшай сілу.

*БелТА*

# 27-29 верасня 2019 года VIII Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі адбудзецца ў Вільні

**Інстытут палітычных даследаванняў «Палітычная сфера» абвяшчае даты і месца правядзення VIII Міжнароднага Кангрэса даследчыкаў Беларусі.**

Галоўная беларуская акадэмічная падзея адбудзецца 27-29 верасня 2019 года ў Вільні. Асноўным акадэмічным партнёрам Кангрэса выступіць Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт (ЕГУ).

Традыцыйна на Кангрэс збяруцца звыш 500 навукоўцаў і экспертаў з Беларусі і замежжа, чакаюцца дыскусіі і прэзентацыі, а таксама наданне Прэміі за найлепшыя навуковыя публікацыі і студэнцкія працы па выніках 2018 года.

Акадэмічнымі партнёрамі таксама выступяць Універсітэт Вітаўта Вялікага і шэраг іншых акадэмічных устаноў. Плануецца, што частка імпрэз Кангрэса адбудзецца ў Ратушы і іншых месцах Старога горада Вільні.

*А. Храпавіцкі*



**Аўтар толькі спыніўся, каб выбраць ракурс, зрабіць фота качак у палонцы рэчкі Беразвіца. Прайшло не болей за 10 секундаў, як ўсе качкі, якія рынуліся з рэчкі на высокі бераг – спыніліся ля самых ног. Фенаменальна! Іх так раскармілі глыбачане, што гатовыя яны харчавацца з рук чалавека. Дзікія птушкі зусім страцілі страх і інстынкт самазахавання! Хоць ужо колькі пісалася, гаварылася, змяшчалі і мы нататкі інспекцыі па ахове жывёльнага і расліннага свету – карміць вадаплаўных птушак (качак, лебедзяў) нельга, не рэкамендуецца! Развучацца самі здабываць ежу! У вельмі сцюдзёную зіму – небяспечна, могуць і загінуць.**

**Цяпер мы ўсе адказныя за тых, каго прыручылі!**

*Фота Ул. Скрабатуна.*

# У студзені ў Беларусі пройдзе перапіс птушак

**У студзені пройдуць штогадовыя зімовыя ўлікі вадаплаўных птушак. Дапамажы нам «перапісаць» кожную качку Беларусі! — просіць грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны», піша mlyn.by.**

Улікі праводзяцца для таго, каб ацаніць колькі і якія вадаплаўныя птушкі зімуюць у Беларусі. Гэтая інфармацыя дазволіць лепш планаваць дзеянні па іх захаванні і на ўзроўні краіны, і на міжнародным узроўні. Зімовыя ўлікі вадаплаўных праводзяцца ў многіх краінах свету і даюць інфармацыю амаль пра 900 відаў птушак.

Улікі птушак — гэта яшчэ і нагода пагуляць на свежым паветры і зрабіць цікавыя назіранні. Праз пацяпленне клімату ўсё больш птушак сустракаюцца на зімоўцы. Самыя незвычайныя назіранні падчас папярэдніх зімовых улікаў — стучок і марская чайка.

Да ўлікаў вадаплаўных можна далучыцца на працягу ўсяго студзеня. Найлепш гэта рабіць у марозныя дні, бо птушкі будуць гуртавацца на адкрытых участках вадаёмаў.

Самыя актыўныя дні перапісу — 18, 19 і 20 студзеня.

Рэкамендацыі, як праводзіць перапіс і куды дасылаць анкеты, можна знайсці на сайце АПБ.

*АПБ*

# У Пастаўскім раёне легкавік збіў пешахода, вылецеў на сустрэчную паласу і ўрэзаўся ў іншае аўто

**25 снежня ў 19:10 у Пастаўскім раёне адбылося ДТЗ, у якім пацярпелі 35-гадовая пешаход і два легкавых аўтамабілі.**

Паводле папярэдняй інфармацыі, 23-гадовы жыхар Мінскай вобласці, рухаючыся на аўтамабілі «Renault Laguna» па аўтадарозе Р-27 «Браслаў-Паставы-Мядзел» з боку вёскі Калеяўцы ў кірунку Паставаў, на 85 кіламетры ўчыніў наезд на жанчыну, якая нечакана выйшла на праезную частку . Пешаход пры гэтым не была пазначаная святлоадбіўнымі элементамі.

Пасля гэтага «Renault» вынесла на паласу сустрэчнага руху, дзе адбылося лабавое сутыкненне з універсалам «LADA Largus», якім кіраваў 37-гадовы кіроўца.

У выніку ДТЗ 35-гадовая жанчына ў цяжкім стане дастаўлена ў рэанімацыйнае аддзяленне Пастаўскай цэнтральнай раённай бальніцы, кіроўцы аўтамабіляў не пацярпелі, пра гэта паведамілі ў абласной ДАІ.

*Іван Дзедушкін*

# У Відзах легкавік насмерць збіў жанчыну, якая ішла па праезнай частцы

**29 снежня каля 19:55 у гарадскім пасёлку Відзы Браслаўскага раёна 63-гадовы кіроўца «Volkswagen Passat» здзейсніў наезд на 50-гадовую жанчыну.**

ДТЗ адбылося ў раёне дома №48 на вуліцы Леніна, пешаход пры гэтым знаходзілася на праезнай частцы і ішла ў спадарожным з аўтамабілем кірунку.

У выніку наезду жанчына атрымала траўмы і яе тэрмінова даставілі ў рэанімацыйнае аддзяленне Браслаўскай цэнтральнай раённай бальніцы. Аднак праз тры гадзіны пацярпелая памерла.

Па факце дарожна-транспартнага здарэння праводзіцца праверка, пра гэта паведамілі ў абласной ДАІ.

Дзяржаўтаінспекцыя нагадвае, што згодна з патрабаваннем п. 17.1 ПДР пры руху па краі праезнай часткі дарогі ў цёмны час сутак пешаход павінен абазначыць сябе святлоадбівальным элементам і рухацца насустрач руху транспартных сродкаў.

*Іван Дзедушкін*

# Цяпер ІПэшнікі будуць рабіць узносы ў ФСАН толькі за той час, калі атрымлівалі даход

Індывідуальным прадпрымальнікам, натарыусам і адвакатам дазволілі плаціць узносы ў ФСАН прапарцыйна адпрацаванаму часу. Змены прадугледжаныя ўказам № 500 «Аб дзяржаўным сацыяльным страхаванні», які 27 снежня падпісаў прэзідэнт. Пра гэта паведамляе прэс-служба кіраўніка дзяржавы. Навоўвядзенні таксама з'явіліся для работнікаў, што працуюць у замежных арганізацыях на тэрыторыі Беларусі, для самазанятых, а таксама некаторых іншых катэгорый грамадзян.

### Самазанятыя змогуць збіраць на пенсію праз узносы ў ФСАН

Прэзідэнцкім указам дазволілі самазанятым беларусам, якія займаюцца непрадпрымальніцкай дзейнасцю, выплачваць узносы ў ФСАН і забяспечваць сабе працоўную пенсію. Пры гэтым выплата страхавых узносаў для самазанятых будзе добраахвотнай.

Да змен у самазанятых не было магчымасці плаціць адлічэнні ў ФСАН — яны не могуць разлічваць ні на бальнічны, ні на дапамогу па доглядзе дзіцяці, ні на пенсію. Гэта пытанне стала яшчэ больш актуальным з кастрычніка мінулага года, калі пачаў дзейнічаць прэзідэнцкі ўказ, які пашырае спіс відаў дзейнасці, для заняцця якімі фізічным асобам не трэба рэгістравацца ў якасці ІП пры ўмове выплаты адзінага падатку.

### «Не працуеш — не плаціш»

ІП, натарыусы і адвакаты будуць выплачваць унёскі ў ФСАН толькі за перыяд фактычнага ажыццяўлення сваёй дзейнасці з атрыманнем даходу. Нагадаем, раней самі ІП прапаноўвалі плаціць унёскі ў ФСАН прапарцыйна адпрацаванаму часу.

Цяпер яны павінны плаціць узносы незалежна ад таго, працуюць яны або сышлі, напрыклад, на вакацыі. Мінімальная сума, якую прадпрымальнікі павінны ўнесці ў ФСАН, складае 35% ад мінімальнага заробку — 29% на пенсійнае страхаванне + 6% на сацыяльнае страхаванне. Напрыклад, за 2017 год — 1113 рублёў (або па 92,75 рубля ў месяц). Для разліку за мінулы год бярэцца мінімальная зарплата 265 рублёў (з 1 студзеня гэтага года яна вырасла да 305 рублёў). Магчымасцю ўносіць большыя сумы ў фонд, каб на пенсіі атрымліваць пабольш, карыстаюцца толькі каля 5% ІП, астатнія выплачваюць па ніжняй планцы. Многія ІП атрымліваюць невялікія выплаты на пенсіі.

Але прадпрымальнікам трэба ўлічваць адзін важны момант: у страхавы стаж будуць залічвацца толькі перыяды, пацверджаныя выплатай узносаў.

### Што яшчэ змянілі ўказам прэзідэнта?

Прэзідэнцкім указам № 500 таксама ўрэгулявалі пытанні забеспячэння праў і гарантый у галіне дзяржаўнага сацыяльнага страхавання асоб, якія працуюць у замежных арганізацыях на тэрыторыі Беларусі, і грамадзян, якія апраўданыя судом і крымінальны пераслед супраць якіх спынены.

«Акрамя таго, дакументам скарэкціраваны асобныя нормы заканадаўчых актаў з улікам правапрымяняльнай практыкі, а таксама ў мэтах прывядзення іх у адпаведнасць са зменамі ў заканадаўстве, што адбыліся», — адзначаюць у прэс-службе прэзідэнта.

*nn.by*

# Польшча з 2 студзеня адмяняе візу «на закупы»

**З 2 студзеня беларусы больш не змогуць зрабіць польскую візу «на закупы».**

Так званая «віза на закупы» была адной з самых папулярных у беларусаў, асабліва ў жыхароў блізкіх да Польшчы Гродна і Брэста. Шматразовую візу нярэдка давалі адразу на 2 гады, а часам нават на 3 гады.

Пры гэтым яна дзейнічала таксама, як і звычайны турыстычны Шэнген, маючы візу «на закупы» беларус мог падарожнічаць па ўсіх краінах Еўрасаюза.

*nn.by*




# Польшча патлумачыла, чаму адмяніла візы «на закупы»

**З'явіўся афіцыйны адказ амбасады Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь з нагоды новых правілаў падачы дакументаў на атрыманне шэнгенскай візы.**

Пасольства Польшчы ў Беларусі паведамляе, што яго консульскія ўстановы выдаюць амаль палову ўсіх шэнгенскіх віз у Беларусі.

Змены, якія ўводзяцца з 2 студзеня 2019 года, «носяць чыста тэхнічны характар, іх мэта — яшчэ большая адкрытасць на патрэбы грамадзян Беларусі, якія ўязджаюць у Польшчу, а таксама ўязджаюць праз Польшчу ў іншыя краіны-члены Шэнгенскага пагаднення. Грамадзянам Беларусі, якія падаюць дакументы на атрыманне візы, гэтыя змены не прычыняць нязручнасцей», — гаворыцца ў паведамленні.

Дыпламаты тлумачаць, што краіны-члены Шэнгенскага пагаднення ўніфікавалі пералік патрэбных дакументаў для афармлення візаў.

**Сярод абавязковых дакументаў цяпер ёсць пацвярджэнне браніравання гасцініцы ў Польшчы на час знаходжання.**

Раней візу «на закупы» выдавалі і без наяўнасці броні гатэля.

# Беларусы будуць плаціць 93,7 капейкі за кубаметр вады, 43,19 капейкі за кубаметр газу і 19.21 капейкі за кілават-гадзіну электраэнергіі пры поўнай кампенсацыі выдаткаў

**Апублікаваныя новыя тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі, якія ўводзяцца ў Беларусі з 1 студзеня 2019 года, згодна з указам Аляксандра Лукашэнкі ад 22 снежня.**

Ва ўказе ўжо не згадваецца пра субсідаванне дзяржавай аплаты ЖКП, але асобныя тарыфы, якія забяспечваюць поўнае пакрыццё эканамічна абгрунтаваных выдаткаў, захаваліся і яны некалькі вышэй тарыфаў для насельніцтва.

Так, тарыфы за 1м³ водазабеспячэння і каналізацыі ўстаноўлены ў памеры 83,38 капейкі і 63,83 капейкі адпаведна, а пры поўным пакрыцці расходаў за гэтыя паслугі трэба будзе заплаціць ужо 93,7 і 80,2 капейкі.

Тарыф на ацяпленне і падагрэў вады павялічыцца з 1 чэрвеня і будзе ўсталяваны ў памеры 18,4831 рубля.

У кватэрах і дамах, абсталяваных газавымі лічыльнікамі, пры наяўнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў у ацяпляльны сезон 1м³ газу з 1 чэрвеня будзе каштаваць 11,9 капейкі, а летам — 41,14 капейкі і столькі ж пры адсутнасці ацяплення газам.

Калі газавага лічыльніка няма, але ёсць газавая пліта і цэнтралізаванае гарачае водазабеспячэнне або індывідуальны воданагравальнік (за выключэннем газавага), цана за газ складзе 3,29 рубля з аднаго пражываючага ў месяц.

Калі ж акрамя газавай пліты ёсць і індывідуальны газавы воданагравальнік, але няма цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння, то за газ давядзецца плаціць 9,36 рубля ў месяц, а ў кватэрах і дамах, дзе ёсць газавая пліта, але няма цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння і індывідуальнага газавага воданагравальніка — 5,35 рубля.

Пры наяўнасці ацяпляльных прыбораў, але адсутнасці лічыльнікаў газу, у ацяпляльны перыяд з 1 чэрвеня прыйдзецца плаціць 53,2 капейкі за 1 м² агульнай плошчы памяшкання ў месяц, у летні перыяд — 19,95 капейкі.

1м³ звадкаванага газу ў кватэрах і дамах з лічыльнікамі з 1 чэрвеня з абагравальнымі прыборамі ў ацяпляльны сезон будзе каштаваць 1,9497 рубля, у летні перыяд — 1,097 рубля і столькі ж пры адсутнасці газавых ацяпляльных прыбораў.

Калі ў доме або кватэры не выкарыстоўваюцца лічыльнікі газу, але ёсць газавая пліта і цэнтралізаванае гарачае водазабеспячэнне або індывідуальны воданагравальнік (за выключэннем газавага), цана звадкаванага газу складзе 3,29 рубля з аднаго пражываючага ў месяц. Пры наяўнасці газавай пліты і газавага воданагравальніка і адсутнасці цэнтральнага гарачага водазабеспячэння звадкаваны газ будзе каштаваць 9,32 рубля, пры наяўнасці газавай пліты, адсутнасці цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння і газавага воданагравальніка — 4,39 рубля.

Тарыф на звадкаваны газ у жыллі, дзе ёсць індывідуальныя газавыя ацяпляльныя прыборы, з 1 чэрвеня ў ацяпляльны сезон складзе 6,3021 рубля за 1 м² агульнай плошчы жылога памяшкання ў месяц, летам — 1,097 рубля.

Газавы балон вагой 21 кг у будзе каштаваць 16 рублёў 35 капеек, а пры поўным пакрыцці — ужо 37 рублёў 35 капеек.

Тарыф на электраэнергію ў жылых дамах і кватэрах, абсталяваных электрычнымі плітамі, складзе 14,84 капейкі за 1 кВт.ч. Дыферэнцыраваны тарыф у такіх жылых памяшканнях у перыяд мінімальных нагрузак (з 22:00 да 17:00) — 10,39 капейкі за 1 кВт.г, а ў перыяд максімальных нагрузак (з 17:00 да 22:00) — 29,68 капейкі. Электрычная энергія для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння з далучанай магутнасцю абсталявання больш за 5 кВт у перыяд мінімальных нагрузак (з 23:00 да 6:00) складзе 10,19 капеек за 1 кВт.г, у астатні час сутак — 18,92 капейкі.

Калі электрапліт і ацяпляльных прыбораў няма, то за электрычнасць трэба будзе плаціць 17,46 капейкі за 1 кВт.ч, а пры дыферэнцыяваным тарыфе ў перыяд мінімальных нагрузак (з 22:00 да 17:00) – 12,22 капейкі за 1 кВт.г, а ў перыяд максімальных нагрузак (з 17:00 да 22:00) — 34,92 капейкі. Пры поўным пакрыцці выдаткаў — 19,21, 13,45 і 38,42 капейкі адпаведна.

За вываз смецця ў дамах без смеццеправодаў цяпер трэба будзе плаціць 7,3333 рубля за 1м³, з смеццеправода — 8,9169 рубля, а за ліфт — 1 рубель 40 капеек з чалавека. Тыя ж тарыфы пры поўным пакрыцці выдаткаў ўстаноўлены ў памеры 8,7007, 10,1203 і 1,59 рубля адпаведна.

*Сяржук Серабро*

## Надзею Уладзіміраўну Маліноўскую

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Жадаем здароўя, удачы, цяпла,
Каб беды-нягоды згарэлі да тла,
Каб жыць - не тужыць
Да ста год давялося,
Хай збудзецца ўсё,
Што яшчэ не збылося.

*Бацька, маці, сястра і дачка Насця*

## Хрысціну Вітальеўну Мацюшонак

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Жадаем быць заўжды здаровай.
Не ведаць смутку і няўдач.
І справядлівай быць, і строгай
У вырашэнні ўсіх задач.
Хай спорыцца любая справа.
Не сустракайцеся з бядой,
І колькі б год ні мінавала,
Душа хай будзе маладой.

*Супрацоўнікі "ВГ"*

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 7 студзеня

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.10** Ñëîâî Ìèòðîïîëèòà Ïàâëà íà Ðîæäåñòâî Õðèñòîâî.
**06.20** Õ/ô «Äâåíàäöàòü ÷óäåñ». (12+).
**08.05** Õ/ô «Ðîäíûå ëþäè». (16+).
**09.00** Íîâîñòè.
**09.10** Ãëàâíûé ýôèð.
**10.10** Õ/ô «Ðîäíûå ëþäè». (16+).
**12.00** Íîâîñòè.
**12.10** Õ/ô «Ðîäíûå ëþäè». (16+).
**15.00** Íîâîñòè.
**15.10** Õ/ô «Ðîäíûå ëþäè». (16+).
**17.50** Õ/ô «Ëþáà. Ëþáîâü». (16+).
**21.00** Ïàíîðàìà.
**21.45** Õ/ô «Æåíà ïî îáìåíó». (12+).

### ОНТ

**07.00** Íàøè íîâîñòè
**07.10** Õ/ô «12 Ðîæäåñòâåíñêèõ æåëàíèé» (12+).
**08.55** «Óäà÷à â ïðèäà÷ó!». Äíåâíèê (12+).
**09.00** Íàøè íîâîñòè
**09.10** Õ/ô «Ìîÿ ìàìà - íåâåñòà» (12+).
**10.35** «Íàåäèíå ñî âñåìè» (16+).
**11.20** «Àëëà Ïóãà÷¸âà. «À çíàåøü, âñå åùå áóäåò...» (12+).
**12.15** «Äîñòîÿíèå ÐÅñïóáëèêè: Àëëà Ïóãà÷¸âà» (0+).
**14.00** Õ/ô «Ïèòåð- Ìîñêâà» (16+).
**16.00** Íàøè íîâîñòè.
**16.20** Íîâîãîäíèé «Åðàëàø» (6+).
**16.55** «Óãàäàé ìåëîäèþ». (12+).
**18.05** «Óäà÷à â ïðèäà÷ó!». Äíåâíèê (12+).
**18.10** Áîëüøîé ðîæäåñòâåíñêèé êîíöåðò (0+).
**20.00** Âðåìÿ.
**20.30** Íàøè íîâîñòè.
**21.00** «Óäà÷à â ïðèäà÷ó!». Äíåâíèê (12+).
**21.05** «Ñåãîäíÿ âå÷åðîì» (16+).
**23.35** Õ/ô «Ñåìåéíûé àëüáîì» (16+).

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Ôèëüì äëÿ äåòåé. «Ïðåêðàñíûé ïðèíö è ôåÿ Ëþïèíà». (12+).
**08.00** Òåëåáàðîìåòð.
**08.05** Ì/ñ «×èï è Äåéë ñïåøàò íà ïîìîùü». (0+).
**08.55** Õ/ô «Çà÷àðîâàííàÿ». (12+).
**10.35** Êîïåéêà â êîïåéêó. (12+).
**11.10** «Áàðûøíÿ êðåñòüÿíêà». (16+).
**12.05** «Ñâàäåáíûé ðàçìåð». (16+).
**13.10** Ì/ô «Ðàòàòóé». (12+).
**15.00** Õ/ô «Çîëóøêà». (0+).
**16.45** Õ/ô «Ëþáèòå Êóïåðîâ». (12+).
**18.35** Òåëåáàðîìåòð.
**19.15** Ñóïåðëîòî.
**20.05** «Áàðûøíÿ-êðåñòüÿíêà.» (16+).
**20.55**, **22.05** «Ïàïà ïîïàë». (16+).
**22.00** ÊÅÍÎ.
**22.45** Èäè ñþäà è òàíöóé
**22.50** Ñûãðàé ìåíÿ, åñëè ñìîæåøü. (12+)
**23.20** Ò/ñ «Öåíòðàëüíàÿ áîëüíèöà». (16+).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.35** Íàâ³íû êóëüòóðû.
**07.55** Ãýòû äçåíü.
**08.00** «Ìàìà». Ì/ô (6+).
**09.25** «Áåëàðóñêàÿ êóõíÿ».
**09.55** «ß õà÷ó ãýòà ¢áà÷ûöü!» (6+).
**10.20** «Ñïÿâàå Áåëàðóñü».
**11.15** «Óòàéìàâàëüí³öà òûãðà¢». Ì/ô (12+).
**12.50** Íàâ³íû êóëüòóðû.
**13.10** Ãýòû äçåíü.
**13.15** «Ìàéñòýðíÿ. Ã³ñòîðûÿ àäíàãî ìàñòàêà».
**13.45** «Ïàêðî¢ñê³ÿ âàðîòû». Ì/ô (12+).
**16.05** «Áåëàðóñü ÿê ïåñíÿ».
**16.30** «Ìàìà». Ì/ô (6+).
**18.00** «Ö¸òêà Ìàðóñÿ». Ì/ô (12+).
**20.15** Íàâ³íû êóëüòóðû.
**20.30** Ãýòû äçåíü.
**20.40** «Êàëûõàíêà» (0+).
**21.05** «Óòàéìàâàëüí³öà òûãðà¢». Ì/ô (12+).
**22.45** Êàëÿäíû êîíêóðñ âàêàë³ñòà¢.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Òåííèñ. WTA. Ñèäíåé.
**11.00** Õîêêåé. ÊÕË. Äèíàìî-Ìèíñê - ÖÑÊÀ (Ìîñêâà).
**12.35** Òåííèñ. WTA. Ñèäíåé.
**14.20** Õîêêåé. «Çîëîòàÿ øàéáà». Ôèíàë.
**16.10** Âîëåéáîë. Êâàëèôèêàöèÿ ê ×Å-2019. Ìóæ÷èíû. Èñïàíèÿ - Áåëàðóñü.
**17.50** Õîêêåé. Ðîæäåñòâåíñêèé òóðíèð. Ôèíàë.
**20.10** Ñïîðò-öåíòð.
**20.20** Ôóòáîë. ×åìïèîíàò ìèðà-2018. Èòîãè.
**21.45** Ôóòáîë. ×åìïèîíàò ìèðà-2018. Âñå ãîëû.
**23.25** Òåííèñ. WTA. Ñèäíåé.

### СТБ

**06.20** «Áîëüøîé ãîðîä».
**06.50** «Äîðîãàÿ ïåðåäà÷à» (16+).
**07.30** Õ/ô «Çèìíèé âå÷åð â Ãàãðàõ». (12+).
**09.00** «Äîáðî ïîæàëîâàòüñÿ».
**09.20** «Íåäåëÿ».
**10.25** «Äåðåâíÿ Live» (12+).
**11.10** «Çîëîòàÿ êîëëåêöèÿ áåëîðóññêîé ïåñíè». Ëó÷øåå.
**13.30** «24 ÷àñà».
**13.40** Õ/ô «Ðîäíÿ». (12+).
**15.25** «Íå ïîêèäàé ìåíÿ». Ò/ñ (12+).
**16.30** «24 ÷àñà».
**16.45** «Íå ïîêèäàé ìåíÿ». Ò/ñ (12+).
**19.30** «24 ÷àñà».
**20.05** Õ/ô «Ìèìèíî». (12+).
**21.40** «Íîâîãîäíèé ïåðåïîëîõ». Ò/ñ
**01.00** Õ/ô «Ðîäíÿ». (12+).

### БЕЛАРУСЬ РТР

**07.00** Ò/ñ «Äîÿðêà èç Õàöàïåòîâêè - 3». (12+).
**10.10** Ò/ñ «Ãîëóáêà». (12+).
**10.55** Ïîãîäà íà íåäåëþ.
**11.00** Âåñòè.
**11.20** Ò/ñ «Ãîëóáêà». (12+).
**12.30** Ðîæäåñòâåíñêîå èíòåðâüþ Ñâÿòåéøåãî Ïàòðèàðõà Êèðèëëà.
**12.55** Õ/ô «Åëêè 1914». (12+).
**14.45** Ò/ñ «Ñâèäåòåëüñòâî î ðîæäåíèè». (12+).
**20.00** Âåñòè.
**20.40** Ò/ñ «Ñâèäåòåëüñòâî î ðîæäåíèè». (12+).
**22.25** Õ/ô «Ïðîñòî ðîìàí». (12+).

### НТВ БЕЛАРУСЬ

**06.00** «Àñòðîïðîãíîç».
**06.05** «Àôîí. Ðóññêîå íàñëåäèå». (16+).
**06.55** Õ/ô «Ïàíñèîíàò «Ñêàçêà», èëè ÷óäåñà âêëþ÷åíû». (12+).
**08.00** Ñåãîäíÿ.
**08.20** Õ/ô «Ïàíñèîíàò «Ñêàçêà», èëè ÷óäåñà âêëþ÷åíû». (12+).
**09.05** «Ñóïåð äåòè. FEST» (0+).
**10.00** Ñåãîäíÿ.
**10.25** Õ/ô «Ìîé ãðåõ». (16+).
**12.05** Õ/ô «Âñå, ÷òî íàì íóæíî...». (12+).
**16.00** Ñåãîäíÿ.
**16.25** Õ/ô «Ï¸ñ» (16+).
**19.00** Ñåãîäíÿ.
**19.25** Õ/ô «Íàñòîÿòåëü» (16+).
**21.05** Õ/ô «Íàñòîÿòåëü-2» (16+).
**22.40** «Ðîæäåñòâî íà Ðîçà Õóòîð». (12+).
**00.15** Õ/ô «Îäíàæäû â Àìåðèêå, èëè ÷èñòî ðóññêàÿ ñêàçêà» (12+).

### МИР

**06.10** Ìóëüòôèëüìû (0+).
**07.40** Õ/ô «Ðèìñêèå êàíèêóëû» (0+).
**09.55** Ì/ô (6+).
**10.25** Õ/ô «Æåíèòüáà Áàëüçàìèíîâà» (6+).
**12.05** Õ/ô «Ôîðìóëà ëþáâè» (0+).
**13.45** Õ/ô «Êðàñîòêè» (12+).
**15.30** Õ/ô «Íî÷ü îäèíîêîãî ôèëèíà» (12+).
**17.20** Õ/ô «Äåäóøêà â ïîäàðîê» (16+).
**19.00** Íîâîñòè
**19.15** Ò/ñ «Îáðàòíàÿ ñòîðîíà Ëóíû». (16+).
**01.10** Õ/ô «Íèêèòà» (16+).
**03.00** Õ/ô «×óäî» (16+).
**04.40** Ò/ñ «Áàëüçàêîâñêèé âîçðàñò èëè âñå ìóæèêè ñâî...» (16+).

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Àá'åêòû¢
**07.15** ÏðàÑâåò
**07.55** Ýêñïåðò
**08.15** Ìîâà íàíîâà.
**08.35** Âÿñêî¢öû
**09.10** Äçåö³ áîæûÿ, ðýïàðòàæ
**09.30** Äîêòàð Ôîñòýð, ò/ñ
**10.30** Êàëÿäíû äàìîê, ì/ô
**12.00** Íàø àéöåö ³ íàøàå Âåòðûíà, ðýïàðòàæ
**12.15** Íåâÿäîìàÿ Áåëàðóñü. Ñåéá³ò, ä/ô
**13.10** Ñàïðà¢äíû Øýðëàê Ãîëìñ, ä/ô
**14.05** Belsat Music LIVE
**14.40** ß íå áóäó ãýòàãà åñö³
**15.10** Õàé òàê TV
**15.40** Íåâÿäîìàÿ Áåëàðóñü.
**16.25** Ëàá³ðûíòû
**16.55** ß âûðàñëà, ïàêóëü òû ñïàëà, ä/ô
**17.50** Ïåðàêëàä÷ûê, ðýïàðòàæ
**18.20** Çàãàäê³ áåëàðóñêàé ã³ñòîðû³.
**18.35** Àñàá³ñòû êàï³òàë
**19.50** Ñòóäûÿ «Áåëñàò»
**21.00** Àá'åêòû¢
**21.25** Ñòóäûÿ «Áåëñàò»
**21.45** ²çíî¢ êàõàííå, ì/ô
**23.10** Ñòóäûÿ «Áåëñàò»
**01.10** Àá'åêòû¢
**01.35** Ñòóäûÿ «Áåëñàò»
**01.55** Çàãàäê³ áåëàðóñêàé ã³ñòîðû³.
**02.10** Àñàá³ñòû êàï³òàë

ПАНЯДЗЕЛАК, 7 студзеня

